*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі! Францішак БАГУШЭВІЧ.*

# НАША СЛОВА




№ 6 • ЖНІВЕНЬ • 1990 Бюлетэнь Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Кошт 20 кап.

## У НУМАРЫ:



# 500 ГАДОЎ ФРАНЦІШКУ СКАРЫНУ



Францішак Скарына.
Аўталітаграфія Арлена Кашкурэвіча.

# ЗВАРОТ

## КАМІСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БЕЛАРУСКАЙ ССР ПА АДУКАЦЫІ, КУЛЬТУРЫ І ЗАХАВАННІ ГІСТАРЫЧНАЙ СПАДЧЫНЫ ДА ГРАМАДЗЯН РЭСПУБЛІКІ

Паважаныя грамадзяне Беларусі!

Дарагія маці і бацькі, чые дзеці ўпершыню пойдуць сёлета ў школу!

Далучэнне да школьнай адукацыі — гэта вялікая падзея як у жыцці малалетка, так і ў жыцці тых, хто за яго лёс адказвае. Агульнапрызнаная ісціна гаворыць: лёс дзяцей — лёс будучыні народа, нацыі, дзяржавы. Жыццё беларускай нацыі ў апошнія дзесяцігоддзі ішло так, што яна апынулася пад пагрозай фізічнага і духоўнага вымірання.

Цень Чарнобылю — і радыяцыйнага і духоўнага — зацемрыў нашы даляглядьі. Рэспубліка перажывае цяжкі эканамічны, палітычны і маральны крызіс. Адна з яскравых праяў апошняга — сённяшнія нігілістычныя, ці ў лепшым выпадку абыякавыя адносіны да беларускай мовы. Да мовы народа, які шанаваў і бярог яе на працягу стагоддзяў, як найкаштоўнейшы скарб сваёй душы. Да мовы, на якой створаны вялікая, прызнаная цэлым светам літаратура, беларускі нацыянальны тэатр. Да мовы, якая нядаўна абвешчана ў рэспубліцы дзяржаўнай, роля і значэнне якой ва ўмовах дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі будзе ўвесь час узрастаць. Будзе! — бо ў гэтым зацікаўлены ўсе патрыёты Бацькаўшчыны. Будзе! — бо інакш словы пра духоўнае адраджэнне беларускай нацыі застаюцца пустым гукам. Духоўнасць — твар культуры, а мова — твар і культуры, і самога народа.

Вось чаму, шаноўныя бацькі, мы звяртаемся да вас з гэтым заклікам у спадзяванні, што вы не ўпусціце дадзенага нам, беларусам, гістарычнага шанцу, прасякнецеся патрыятычнымі клопатамі пра заўтрашні дзень роднага краю і накіруеце сваіх дзяцей у беларускія школы. Задумайцеся, разважце, і вы самі прыйдзеце да ўсведамлення, што толькі беларуская нацыянальная школа выведзе наш народ на шлях да рэальнага нацыянальнага адраджэння. Будзе ў нас добрая свая школа — будзе неўзабаве, не за гарамі і ўсё іншае: і моцная, развітая эканоміка, і жаданы матэрыяльны дабрабыт, і высокая духоўная культура. Бо толькі такая школа зможа выхаваць мільёны дзяцей разумнымі і клапатлівымі гаспадарамі роднай зямлі, толькі яна зробіць іх нацыянальна свядомымі грамадзянамі, якія будуць здольныя забяспечыць абвешчаны дзяржаўны суверэнітэт рэспублікі рэальным зместам.

Будзьце ж вартыя вялікіх задач, што паўсталі перад усімі намі, дочкамі і сынамі Беларусі — задач нацыянальнага беларускага адраджэння! Патрабуйце адкрыцця школ, або хаця б на пачатку стварэння класаў на роднай беларускай мове!

Беларускія класы ў рускамоўных школах могуць і павінны стаць першым крокам да беларускамоўных навучальных устаноў.

Дастаткова ўсяго некалькі бацькоў, якія жадаюць даць сваім дзецям беларускамоўную адукацыю, — і беларускі клас у рускамоўнай школе будзе адчынены.

Карыстайцеся правам, якое дае вам Закон аб мовах у Беларускай ССР: з першага верасня ён уступае ў дзеянне і абавязвае не толькі агульнаадукацыйную школу, але і тэхнікумы і ВНУ да паступовага пераходу на беларускую мову навучання. Памніце пры гэтым, што школа на беларускай мове не перашкодзіць вашым дзецям вывучаць і дасканала валодаць рускай мовай — мовай міжнацыянальных зносін. Гэтаксама як і дзецям любой іншай этнічнай супольнасці на Беларусі — вывучаць сваю родную мову. Сапраўды цывілізаванае грамадства — гэта грамадства высокай моўнай культуры, якая пачынаецца з ведання мовы свайго народа.

Настаўнікі і выхавальнікі, якія ў прафесійнай дзейнасці пераходзяць на беларускую мову, не могуць быць абыдзены ўвагай грамадства. Складваецца сістэма іх маральнага і матэрыяльнага заахвочвання, так, з 1 верасня 1990 года педагогі рускамоўных навучальных устаноў, пачаўшы працаваць на беларускай мове, маюць права на атрыманне 15% наддатка да службовага акладу.

Аднак мы разумеем, што сёння стварыць умовы для адкрыцця беларускіх школ нялёгка. Гэта закрывалі іх, ці дакладней — перараблялі на рускія — бяздумна, бестурботна і таму з лёгкасцю незвычайнай. Цяпер жа для адраджэння беларускай школы патрэбны ўсеагульныя намаганні, за памылкі плаціць даводзіцца дорага. Але калі мы гэта не зробім — усё будзе каціцца па нахільнай далей, і тады мы будзем вымушаны заплаціць за чыюсьці бяздумнасць самай страшнай цаной — жыццём беларускай нацыі.

Усвядомім жа гэта, дарагія бацькі, паважаныя грамадзяне! Усвядомім — і зробім свой выбар на карысць роднай мовы, на карысць нашай занядбанай і панявечанай культуры, на карысць уваскрашэння нашае Бацькаўшчыны. Жыве Беларусь!

## З НАГОДЫ ДЭКЛАРАЦЫІ ПРА ВОЛЮ

# СУВЕРЭНІТЭТ


Фота Алеся Крыштаповіча.

Хаця толькі аднаго разу давайма запэўнімся: ні злыбяда, ні хвароба анікога наўкола не напаткаюць, калі мы сябе назавём гэтак, як след называцца кожнаму народу, годна, з вялікае літары. Мы — Беларусы.

Нейк гудзеўскаму нястомнаму змагару за Беларушчыну Алесю Белакозу хтосьці з кэдэбістаў у часе размовы казаў: «Мы хотим уничтожить белорусский язык, а вы нам мешаете». На гэта нам аніяк нельга забывацца. Як і на шмат што іншае. Напрыклад, абавязкова трэ' памятаць, як павытручалі з людзей Беларускасць, як зрабілі з нас пярэхрыстаў, як глуміліся з нашага Купалы ды панішчылі нацыянальную інтэлігенцыю, як учынілі здзек з мовы, як перайначылі на свой капыл назовы Крыўскіх гарадоў і пазачынялі Беларускія школкі... Кожнае злачынства мусім прыгадаць, інакш з рабскае скуры не вылузаемся. Сённячы бо, як нам у парламенце абвясцілі палёгку, мы трохі нагадваем пяюнка, які нарадзіўся ў нявoлі і які не спяшаецца пакінуць прачыненую клець. Каб Беларусам вымкнуць птахам да нябёсаў з агульнага лагеру, найперш належыць адчуць тую ганьбу, якую сцярпеў народ. А таксама належыць зразумець, што аніякі панскі ўказ не падорыць свабоды, покі сам чалавек праз вялікія духовыя выпрабаванні не пераможа рабства: каб Беларус пачуваў сябе за вольнага, ён найперш мусіць усвядоміць свой прыкры стан служкі. Вось для чаго патрэбна памяць. З ёю ўрэшце нам след пачырванець апошняга разу, убачыўшы, як нехта выцірае ногі аб нашую багру на белай нерушы.

# ДА 500-ГОДДЗЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

# НАСТАЛЬГІЯ

Бадай што, Пранук Скарына мог бы зрабіцца сымболем Рэнесансу на Беларусі. Аднак ён быў задужа велічны, каб адлюстравацца ў жыцці адно тагачасных пакаленняў. Акрамя гэтага, час жорстка абышоўся з Краем, і спадчына асветніка на сыходзе «найноўшай» гісторыі набыла сэнс значна большы, адрозны ад пачатковага сэнсу. Гэтаму сведчанне і тое, што тры апошнія стагоддзі Крыўскага існавання сталіся Народу ганьбою, якую ўчынілі суседнікі — Польшча ды Расея. Цягам гэтых гадоў адбывалася якасная трансфармацыя Скарынавай ідэі. Магчыма, праз тое, што асветнік не здолеў пакінуць пасля сябе замкнутай сістэмы поглядаў, але паспеў спасцігнуць Крыўскі Дух, тлумачыцца відочная універсальнасць ягонага творышча, якое выдатна дадалося Народу ў пошуках шляхоў да волі і гуртавання.

Спасціжэнне Беларусі (Крыўскага Духу) — то спасціжэнне волі. Менавіта праз гэта прайшоў першадрукар і менавіта праз гэта крочыць сучаснік. Аднак геніяльнасць нашага слыннага суайчынніка вось у чым: Пранук Скарына, спасцігаючы волю, сам пачуваў сябе за вольнага. Гэта дужа розніць яго з намі і ўзносіць яго над намі: мы спасцігаем волю як рабы, пазіраючы больш у даўніну, чымся ў будучыню.

Ідэалы прыгнечанай нацыі, якая калісьці спазнала самастойнасць, заўсёды ў мінуўшчыне. То настальгія народа; яна замінае Беларусі распрастаць свае крылы і зрабіцца краінаю, якая б замест таго, каб спажывацца чужымі духовымі набыткамі, магла прапанаваць свету свае; яна замінае нам першымі бачыць і казаць Ісціну — мы здольныя адно паўтараць яе за кімсьці. Настальгія —то стан, які вельмі блізкі да паняверкі, то вялікае выпрабаванне Народу: ён співаецца, выракаецца чалавецкасці, гіне ў тым разе, калі не шукае шляхоў да адраджэння. Ды настальгія мае дадатнасць. Яна амаль нячутна, але настойліва кліча нас да рэстаўрацыі Беларускага Храма, у муры якога клаў цэглу і славуты асветнік. Таму Беларускі шлях у заўтра немінуча вядзе праз учорашні дзень.

Наш Скарына ў адмысловым становішчы. Высозны п'едэстал, які збудавала яму гісторыя, не аддаляе яго ад нас. Ён над намі, але мы пазіраем разам з ім у адным кірунку. Асветнік і гуманіст, па ўсім відаць, прыходзіў у нашую гісторыю з іншай місіяй, не гэткай, якой яго пасля надзялілі нашчадкі. Скарынава місія палягала на неверагодных супярэчлівасцях. Ягоныя блуканні паміж Вераю і Ведамі сведчаць за тое. Прыход да Веры праз Веды — ягоны шлях навукоўца — варта параўнаць са шляхам спасціжэння Крыўскага Духу праз пакіданне Айчыны. Варта таксама памятаць і тое, што ягоны розум, які прагнуў пазаземных асэнсаванняў, усё ж часцяком не мусіў пераадолець прыцягальнасць зямлі, хаця і не быў у палоне тагачасных шораў. Магчыма, таму Скарынава касмічнасць вельмі жывая, але таемная. Пры жаданні льга збольшага зразумець матэрыялістычную абалонку, якая ахутвала думніка — розныя гістарычныя і жыццёвыя акалічнасці, дадатная біялагічная будова ягонага арганізма, а таксама інстынкты і фізіялагічныя комплексы, якія жывілі ягоную неўтаймоўную энергію. Аднак немагчыма ўсвядоміць дый цяжка ўявіць той велізарны зарад поўнае волі, што ўвабраў у сябе Скарына. Гэтага зараду досыць ставала і будзе ставаць шмат якім пакаленням ягоных супляменнікаў. Гэты зарад — Скарынаў Дух, які праз стагоддзі лунае над Беларусяй, абуджаючы ў Крывіцкіх сэрцах самоту.

Наш думнік вельмі супярэчлівы не толькі пры жыцці, але і потым. Ягоны Дух спачатку намаляваў красоўны сымболь будучыні Краю. Але то былі толькі спадзяванні — аквітнасць ды шчасце на Беларусі, гармонія, дасягнутая народам праз сваю геніяльнасць і прагу да асветы, навукі, духовасці. Атрымалася іначай: Пранук Скарына стаўся Народу паклічам да барацьбы за адраджэнне і існаванне. Проста мы маем найвялікшае ў гісторыі Беларусі пераўтварэнне гуманістычнае ідэі ў ідэю змагання. І гэта ўрэшце засмучае. Нашая мізэрнасць прад Скарынам у якасна іншым адчуванні гуманізму. Ён у сваёй неабсяжнай,дачасна абуджанай волі нёс люду любоў звыш. Мы, закутыя ў кайданы, у лепшым выпадку здольныя да чалавекалюбства адно на ўзроўні спачування. Гэта наша бяда. І мабыць віна, калі раптам у Бацькаўшчыны ёсць будучыня.

**Лявон ВАШКО.**



Мікола Купава. Ілюстрацыя да драматычнай паэмы М. Арочкі «Судны дзень Скарыны».

# МЫ І СКАРЫНА

**На пытанне рэдакцыі «Чым дарагая для Вас спадчына Францішка Скарыны?» адказваюць знаўцы роднай культуры.**

## Сямён ПАДОКШЫН

Як я зацікавіўся філасофскай спадчынай Скарыны?

У 1969 г. у выдавецтве «Навука і тэхніка» выйшла ў свет падрыхтаваная А. Ф. Коршунавым кніга «Францыск Скарына. Прадмовы і пасляслоўі». Гэта была першая больш ці менш поўная публікацыя твораў вялікага ўсходнеславянскага першадрукара і мысліцеля-гуманіста. Менавіта з гэтай кнігі пачалася мая цікавасць да скарынаўскага светапогляду. Не скажу, што дагэтуль я не цікавіўся Скарынам. Займаючыся гісторыяй грамадскай і філасофскай думкі Беларусі эпохі Адраджэння і Рэфармацыі, я гэтак ці інакш сутыкаўся з неабходнасцю характарыстыкі постаці вялікага палачаніна. Але ж думкі мае вельмі залежалі ад наяўнай літаратуры. Толькі тады, калі я грунтоўна праштудзіраваў усе ягоныя прадмовы да шматлікіх біблейных кніг, я зразумеў, якога гэта маштабу мысліцель і якое вялікае значэнне ён мае дзеля нацыянальнай, беларускай культуры.

З дапамогай незабыўнага, цудоўнага чалавека і таленавітага пісьменніка Варлена Бечыка, які працаваў тады ў «Нёмане», я надрукаваў у першым нумары за 1970 г. рэцэнзію на коршунаўскае выданне пад назвай «Чалавек на ўсе часы». Тут я выказаў дзве думкі, якія, на мой погляд, заслугоўваюць увагі: па-першае, што Скарына *гуманістычна* пераасэнсоўваў Біблію, па-другое, што ён асноватворца *нацыянальнай* беларускай філасофіі. З цягам часу скарынаўская праблематыка заняла адно з вядучых месцаў у маёй доследнай дзейнасці. У прыватнасці, асноўныя мае погляды на Скарыну як мысліцеля змяшчаюцца ў працах «Скорина и Будный. Очерк философских взглядов» (Мн., 1974), «Франциск Скорина» (М., 1981), а таксама ў серыі артыкулаў энцыклапедычнага даведніка «Францыск Скарына» (Мн., 1988). З апошніх прац адзначу артыкулы «Спадчына Скарыны і выхаванне гістарычнай, патрыятычнай і інтэрнацыянальнай свядомасці» (Спадчына Скарыны. Зборнік матэрыялаў першых скарынаўскіх чытанняў. Мн., 1989) і «Францыск Скарына і станаўленне агульначалавечых і нацыянальных каштоўнасцей у духоўнай культуры Беларусі эпохі Адраджэння» (Славяне: адзінства, мнагастайнасць. Міжнародная канф. 24—27 мая 1990 г. 3 секцыя. Гуманізм і асветніцтва ў славянскіх культурах. Мн., 1990).

Цяпер коратка адкажу на два наступныя пытанні: першае, як я ўяўляю сабе постаць Скарыны; другое — што б я параіў маладым даследчыкам скарынаўскай спадчыны.

У маім уяўленні, Скарына — першы беларускі Апостал. Гэтае званне (ад грэч. апостолос — пасланец, вястун) першапачаткова надавалася людзям, якія мелі вялікія заслугі перад хрысціянскай верай. Прычым апосталамі былі не толькі першыя вучні і паплечнікі Хрыста, але і тыя, хто нёс веру, асвету сваім народам. Так, Баніфацый — апостал германцаў, Стэфан Пермскі — апостал комі-зыран і г. д. У шырокім сэнсе слова апостал — гэта маральны прапаведнік, настаўнік жыцця, прарок, бескарыслівы падзвіжнік, самаадданы служка народа, які нясе яму веды, святло, ісціну.

Менавіта такой постаццю для беларускага народа з'яўляецца Францыск Скарына, які не толькі даў яму друкаваную кнігу, але і першым у гісторыі беларускай культуры выступіў з патрабаваннем духоўнай свабоды, прычым не толькі рэлігійнай, маральнай, інтэлектуальнай, прававой, але і *нацыянальнай*. Ён першы па-сапраўднаму ўсвядоміў грамадскі абавязак перад сваёй Радзімай, сваім народам, паколькі, як ён адзначаў, «люди, игде зродилися и ускормлены суть по бозе к тому месту великую ласку имают». Сама тытанічная дзейнасць усходнеславянскага першадрукара і асветніка па перакладзе Біблii на беларускую мову з'яўлялася яскравым праяўленнем ідэі нацыянальна-культурнай свабоды, бо абуджала самасвядомасць народа, сцвярджала такія неацэнныя для яго каштоўнасці, як мова і культура. Тлумачачы сваю дзейнасць інтарэсамі «посполитого доброго», Скарына ў той жа час *нацыянальна канкрэтызуе яе накіраванасць*: «Наболей з тое прычыны, иже мя милостивы бог с того языка на свет пустил». На мой погляд, гэта *выходны пункт, асноватворная ўстаноўка дзейнасці Скарыны*.

Дарэчы будзе сказаць, што сам Скарына ўсведамляў сябе амаль што апосталам, параўноўваючы свой лёс з лёсам евангеліста Лукі, аб чым ён піша ў прадмове да «Апостальскіх дзеянняў».

Скарына — першы беларускі Апостал. Потым былі і іншыя. Апасталічнымі ў гісторыі Беларусі можна лічыць постаці Каліноўскага, Багушэвіча, Багдановіча, Купалы, Коласа, у нашы дні — Караткевіча і Быкава.

Што б я параіў маладым даследчыкам скарынаўскай спадчыны? Першае — вялікай любові да сваёй справы, самаахвярнасці дзеля яе, здаровага фанатызму — без чаго няма навукі. Другое — дасканалага ведання ўсіх скарынаўскіх тэкстаў, не толькі прадмоў і пасляслоўяў, але наогул усёй скарынаўскай Бібліі. Галоўнае, што патрэбна было б зрабіць,— гэта параўнаць скарынаўскую Біблію са старажытнаяўрэйскай, старажытнагрэчаскай, Вульгатай, нямецкай, чэшскай, польскай і іншымі варыянтамі. Толькі тады адкрыецца сапраўднае — і моўнае, і эстэтычнае, і філасофскае — хараство вялікай працы Скарыны, толькі тады будзе зроблены якасна новы, істотны крок у скарыназнаўстве. На жаль, маё пакаленне не здолела гэта ажыццявіць з прычыны розных абставін, у тым ліку і недасканалай моўнай падрыхтоўкі.

І нарэшце, той, хто прысвячае сябе вывучэнню спадчыны Скарыны, павінны добра ведаць той сацыяльны і культурна-філасофскі кантэкст, у якім жыў і дзейнічаў Скарына і які ён увабраў у сябе. Гэта — антычная філасофія, усходняя і заходняя патрыстыка, праваслаўнае і каталіцкае багаслоўе, сярэдневяковая культура, схаластыка, еўрапейская і беларуская культура і думка эпохі Адраджэння і Рэфармацыі і г. д.

Слова — новаму пакаленню даследчыкаў-скарыназнаўцаў!

# МЫ І СКАРЫНА

## Уладзімір СВЯЖЫНСКІ

Прайшло ўжо паўтысячагоддзя з таго часу, як наш славуты зямляк «из славнаго града Полоцька», ажыццявіўшы сваю геніяльную задуму, даў сваім суайчыннікам першую друкаваную кнігу на зразумелай мове. Тым самым ён вывеў Беларусь у шэраг самых перадавых краін свету. Яшчэ не мелі сваёй друкаванай кнігі рускія, армяне, грузіны, многія іншыя народы, а яна ўжо з'явілася ў беларусаў — людзей з еўрапейскай глушы, дзе было багата лясоў, азёр і рэчак, але не было яшчэ свайго універсітэта. І хоць гэты подзвіг Скарыны не адразу быў ацэнены на роднай зямлі — лёс, звычайны для прарокаў, якія нідзе не бываюць без гонару, акрамя сваёй айчыны,— тым не менш менавіта дзякуючы скарынаўскім кнігам беларусы зрабілі гіганцкі крок па шляху культурнага прагрэсу і нацыянальнай кансалідацыі.

Словы і справы Скарыны сведчаць пра тое, што ён быў носьбітам лепшых маральных якасцяў свайго народа — чалавекалюбства, працавітасці, сціпласці, за што і зараз паважаюць беларусаў ва ўсім свеце. Як і многія яго паплечнікі, ён абраў сваім ідэалам Ісуса Хрыста — вечны сімвал самаахвярнасці ў імя народа. Менавіта мараль самаахвярнасці першахрысціян натхніла Скарыну на подзвіг у імя суайчыннікаў. Ён найбольш паважаў у людзях тое, да чаго і сам імкнуўся ўсё жыццё,— адукаванасць, інтэлект, бо разумеў, што менавіта гэта дапаможа ягонаму народу хутчэй пазбавіцца ад адсталасці і дасягнуць сацыяльнага прагрэсу. Таму ён, як і другі яго кумір — егіпецкі цар Пталемей Філадэльф, «болей избрал оставити в науце и в книгах вечную славу и паметь свою, нежели во тленных великих царскых сокровищах». Прыклад Скарыны з'яўляецца своеасаблівым маральным імператывам для нас, яго нашчадкаў.

Скарына заўсёды з намі. Ён прайшоў з намі ўвесь цярністы шлях нашай гісторыі, служыў нам апорай у найбольш крытычныя яе часіны. Ён асабліва патрэбен нам зараз, калі час дае нам бадай што апошні шанц паўстаць з небыцця, каб людзьмі звацца. Калі мы гэты шанц упусцім, то нас чакае лёс угра-фінскага плямені мера, якое было цалкам асімляванае прышэльцамі-славянамі, і толькі мясцовыя назвы, што захаваліся, напамінаюць зараз аб ранейшых жыхарах — Істра, Ікша, Талдом. Такі ж трагічны лёс напаткаў балтыйскае племя прусаў, што насялялі калісьці цяперашнюю Калінінградскую вобласць: яны былі асіміляваныя немцамі і як народнасць перасталі існаваць. Такая ж пагроза навісае і над беларусамі. Працэс нашага знікнення ўжо адбываецца — многія ўжо з нас выракліся сваёй мовы, звычаяў, песняў, г. зн. фактычна перасталі быць беларусамі. І можа стацца, што і ад нас застануцца ў будучым толькі назвы Менск, Полацак, Бярэсце. Можа стацца так, калі мы збочым са шляху, які нам паказаў Скарына.

Ён звяртаецца да нас ў песнях паэтаў, з палотнаў мастакоў. «Понеже от прирожения...»— гэтыя словы, як набат, гучаць з мінуўшчыны, будзяць наша сумленне, нашы душы, каб «не ўмёрлі».

Справа Скарыны — наша справа. Ён жыве ва ўсім, што мы робім у імя Беларусі. Пакуль жыве Беларусь — жыве Скарына. Скарына пачаў справу нашага Адраджэння, нам яе працягваць. У гэтым непарыўнасць нашых повязяў з ім.

Менавіта таму, што Яго запаветы не трацяць з вякамі сваёй актуальнасці для нас, мы збіраем зараз па кропельцы ўсё, што хоць у якой-небудзь ступені пашырае нашы веды пра тытана беларускага Рэнесансу. Да таго ж загадкавая постаць нашага геніяльнага прашчура тоіць у сабе яшчэ шмат загадак. Вобраз Скарыны — чалавека, пісьменніка, вучонага не страціць сваёй прыцягальнай сілы для ўсіх, каму дарагія ідэалы нашага Адраджэння.



Мікола Купава. Ілюстрацыя да драматычнай паэмы М. Арочкі «Судны дзень Скарыны».

# МЫ І СКАРЫНА

## Вячаслаў ЧАМЯРЫЦКІ

Спадчына Скарыны мне дарагая перш за ўсё сваёю агульначалавечаю і агульнанароднаю значнасцю, сваім глыбокім гуманізмам і дэмакратызмам. Скарына паказаў узор арганічнага спалучэння нацыянальных і агульначалавечых духоўных традыцый і культурных каштоўнасцяў, імкненняў і патрэб (у сваіх незвычайных кнігах, наватарскай творчасці, шматграннай дзейнасці, узнёслых намерах). Таму яго спадчына несмяротная.

Скарына дарагі і сваім высокім духоўным прыкладам, тытанічным подзвігам самаахвярнага служэння свайму народу, а гэтым самым і ўсяму чалавецтву. Ён сваёй актыўнай і плённай дзейнасцю пераканаўча пацвердзіў таксама бясспрэчную слушнасць вядомага біблейнага выказвання, якое не толькі любіў паўтараць, але якім нязменна кіраваўся ў жыцці: «Вера без спраў мёртвая».

Скарына мне блізкі і дарагі сваім гарачым перажываннем за дасканаласць чалавека і грамадства, глыбокаю заклапочанасцю надзённымі праблемамі жыцця, якія хвалююць нас і сёння (духоўнасць і маральнасць, праўда і справядлівасць, сэнс жыцця), настойлівым імкненнем узняць простага чалавека і свой народ да высокіх агульначалавечых каштоўнасцяў, далучыць іх да лепшых здабыткаў сусветнай культуры.

Скарына паказаў нам яскравы прыклад мудрага стаўлення да нацыянальнай і сусветнай культурнай спадчыны: ведаць, клапатліва шанаваць і актыўна асвойваць, смела ставіць яе на службу свайму часу і ўсяму народу дзеля яго духоўнага ўдасканалення, культурнага поступу. І побач з гэтым сваім вялікім прыкладам выдатны беларускі асветнік-гуманіст вельмі пераканаўча паказаў таксама, што плённае можа быць толькі творчае стаўленне да спадчыны, далейшае развіццё і памнажэнне ранейшых традыцый. Жывою застаецца толькі тая культура, якая не парывае з нацыянальнымі традыцыямі і здольная да самаразвіцця, да стварэння новых духоўных каштоўнасцяў, натуральна выкліканых надзённымі патрэбамі часу, духоўнага жыцця народа.

Скарына блізкі і дарагі мне глыбокім разуменнем свайго высокага гістарычнага прызначэння, адчуваннем сваёй чалавечай самасвядомасці і самагоднасці як непаўторнай асобы, імкненнем да духоўна-творчай незалежнасці. Яго драматычнае жыццё яскрава паказвае, што творчая асоба, талент чалавека можа паўнакроўна раскрыцца і даць вялікі плён толькі ва ўмовах поўнай духоўнай свабоды і рэальнай падтрымкі ўсяго грамадства.

Духоўная спадчына Скарыны служыць нам таксама вялікім патрыятычным прыкладам і вечным свяшчэнным запаветам шанаваць, як святыню, роднае слова, самааддана любіць сваю Бацькаўшчыну і не шкадаваць сваіх сіл дзеля нацыянальнага вызвалення, адраджэння і ўзвышэння свайго народа, бо не можа адчуваць сябе духоўна свабодным і незалежным нацыянальна свядомы чалавек без дзяржаўнай незалежнасці роднай зямлі.

■■■

## Юры ХАДЫКА

Мне, як і кожнаму беларусу, з самага дзяцінства настойліва ўбівалася ў галаву думка, што нарадзіўся я ў лапцюжнай, сярмяжнай краіне, якая век ад веку пакутавала пад чужым прыгнётам, пакуль вось не далучылася да Расіі, каб рашчыніцца ў яе слаўнай гісторыі ды вялікай культуры. І першым гістарычным фактам, які няўмольна вытыркаўся з гэтага акіяна маны, быў менавіта Францыск Скарына — ягоная асветніцкая і культурная дзейнасць.

Мне здаецца, што й сёння, напярэдадні святкавання 500-х угодкаў з дня нараджэння Ф. Скарыны, мы недаацэньваем ягоную магутную постаць, яго бессмяротны ўклад у скарбонку беларускай культуры. Сапраўды, шмат у якіх народаў людзі, што пераклалі Біблію на народную мову, ушаноўваюцца як святыя. Так, можна згадаць святых Ераніма, Кірылу ды Мятодзія. З сучаснікаў Скарыны — М. Лютэра. Пераклад Бібліі — гэта не проста філалагічная праца, але і тэалагічная, філасофская, літаратурная. Народ, які мае Біблію на сваёй мове, быццам атрымлівае пропуск у клуб цывілізаваных народаў — у такой ступені магутны імпульс дае такі пераклад усёй гуманітарнай галіны культуры. Не з'яўляецца выключэннем у гэтым дачыненні і пераклад Ф. Скарыны.

Характэрна, што ствараючы беларускую Біблію, Ф. Скарына выкарыстаў не толькі грэчаскія і царкоўна-славянскія тэксты, але і Вульгату — лацінскі пераклад. Ці не згэтуль бяруць пачатак традыцыі талерантнасці, верацярпімасці, так характэрныя для беларусаў? Ці не ў ягонай дзейнасці хаваюцца карані Уніі — веравызнання нашых продкаў. Нездарма ж на Масковіі палілі скарынінскую Біблію, нягледзячы на яе высокія друкарскія якасці.

Наогул, талент Францыска Скарыны — лёгкі, шматгранны, найярчэйшае сведчанне Адраджэння ў беларускай культуры XVI ст., яе еўрапейскага характару.

Сам ён паходзіў з людзей простых, «паспалітых» і для іх стварыў свой пераклад. Гэтым самым ён стварыў трывалыя падмуркі для дэмакратычнай плыні ў беларускай культуры. Плыні, якой было наканавана ў гісторыі стаць галоўнай і вызначальнай для беларусаў.

Такой значнай і разам з тым блізкай да сучаснасці, амаль што надзённай, падаецца мне спадчына нашага вялікага земляка.

# *ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ*

# ФРАНЦІШАК СКАРЫНА

**З «Кнігі вершаў», якую ўклаў і на сучасную мову перастварыў**

**Алесь РАЗАНАЎ**

## Псалом-песнаспеў анёльскі

Пісанне, натхнёнае богам,
карыснае ўсякаму чалавеку:
для навучання
і разважання,
для ачышчэння
і высвядчэння,
для выпраўлення
і для здзяйснення праўды,—
каб дасканалы быў чалавек
і здатны
да ўсякае добрае справы,
як піша апостал Павел.

* * *

2

Усталявана святое пісанне,
каб мы
знаходзілі ў ім
для сябе спажытак
і мелі раду —
ў законе старым
і ў законе новым,
у дзеях святых айцоў
і ў святых прароках,
у прыпавесцях мудрацоў
і ў псалмах урачыстых,
якія складаў цар Давыд
і іншыя божыя хваласпеўцы.

3

Розняцца між сабою
найменаваныя пісьмы,
аднак усе яны ў зборы
і кожнае паасобку
адзіную справу ў сабе змяшчаюць,
адзіную мэту ў сабе трымаюць,
навуку адзіную маюць:
як дасягнуць чалавеку
жыцця, над якім не мае
улады ні тлен, ні смерць.

4

Прарокі звястуюць наступнасць,
якая суджана людзям
і цэлым народам
паводле іхняга чыну:
добрую — добрым
і злую — злым.
Жыцці святых айцоў
і іхнія дзеі
вучаць нас жыць на свеце
ў цярплівасці і ў надзеі,
і ў боязі божай.
Прыпавесці і сказы
настаўнікаў мудрых
дбайна
усіх нас — малых і старых —
настаўляюць
у звычаях добрых.

5

Псалтыр жа ўбірае
усе здабыткі,
якімі багаты іншыя пісьмы
і, як яны, навучае ведам,
і, як яны, прарочыць.
Ён — быццам скарбніца,
у якой
найдаражэйшыя скарбы сабраны.
І гэтыя скарбы — не дыяменты,
не срэбра,
не золата, не смарагды,
а чалавечыя словы,
натхнёныя богам
і выслаўленыя да бога.

6

Псалмы ацаляюць дух
і гояць
ад немачаў цела,
душу прасвятляюць,
мацуюць розум,
спакой усталёўваюць,
льюць лагоду,
тугу праганяюць,
адводзяць смутак,
любоў абуджаюць,
спагаду шырацъ,
людзей прыязняць,
даюць у малітвах чуласць,
нячысцікаў выганяюць,
анёлаў на помач клічуць.



Мікола Купава. Ілюстрацыя да драматычнай паэмы М. Арочкі «Судны дзень Скарыны».

7

Псалом — гэта шчыт
супроць начных сурочлівых мрояў
і пострахаў,
супакаенне —
у рупеску дзённым,
падтрымка — у працы,
дарадца і радасць — юным,
старым — уцеха і песня,
жанчынам — малітва набожная
і акраса,
мужчынам — апора трывалая
і падмога,
навук памнажэнне — дарослым
і дзеткам малым — пачатак
усякай добрай навукі.

8

Псалом — суадзіны голас
усёй царквы багаіснай,
ён упрыгожвае набажэнства
і аздабляе свята,
а ростыркі,
злыбеду,
варажнечу
дзеля ўсявышняга бога
зміpae.
Нават каменнае сэрца
псалом расчульвае і змякчае,
і слёзы з яго вытачае,
быццам ваду з крыніцы.
Псалом — песнаспеў анёльскі,
цімвян духоўны:
вучыць душу, а цела
вяселіць спевам.

9

Што ёсць высокае ў высачыні,
што для псалмоў
было б недасяжным?
Што ёсць глыбокае ў глыбачыні,
што для псалмоў
засталося б схаваным?
Што ёсць далёкае ў далечыні,
пра што б у псалмах
не вялося гаворкі?
Псалмы жыватворыць хвала,
якая ўзыходзіць ад сэрца,
і поўніць божая веліч,
якая пераўзыходзіць
усё, што ёсць.

# АДКАЗЫ НА ПЫТАННІ

прапанаваныя «Нашым словам» удзельнікам Свята славянскага пісьменства і культуры

*1. Што Вы думаеце пра лёс беларускай мовы і культуры?*

*2. Якія галоўныя пачуцці агортваюць Вас у дні Свята славянскага пісьменства і культуры на беларускай зямлі?*

**Тамаш БЭРД,**
**гарадзкі Універсітэт Нью-Йорка.**

## Мы не горшыя за суседзяў

1. Беларуская мова, а тым самым і культура заслугоўваюць на многа болей, чым тое, што яны атрымалі ад гісторыі. Як вядома, беларуская мова па свайму рангу і значэнні не павінна ўступаць мовам гэтакіх суседзяў Беларусі, як Расея, Украіна, Польшча і Літва. Тым часам, стан і ранг моваў гэтых суседніх народаў на многа лепшы і вышэйшы, чым стан і ранг мовы беларускай. Вывад просты і, на маю думку, адзіны: беларускі народ павінны праявіць у адносінах да сваёй мовы і культуры тыя пачуцці і тую клапатлівасць, якую праяўляюць да роднай мовы суседнія ды ўсе ў свеце народы.

2. Дні Свята славянскага пісьменства і культуры былі адныя з найцудоўнейшых мерапрыемстваў, якія ўдалося мне бачыць у апошнія дзесяць гадоў майго жыцця. Свята гэта паказала, што беларускі народ валодае высокімі культурнымі, навуковымі і мастацкімі магчымасцямі.

Справа аднак у тым, каб гэта свята не было кароткатрывалым фрагментам, які можа быць забыты. Заданне, думаю, заключаецца ў тым, каб той імпэт, які праявіўся ў часе свята, уплываў на працягу цэлых месяцаў і нават гадоў на развіццё беларускай культуры.

Я, як амерыканец, веру, што беларускі народ і яго інтэлектуалы зробяць усё, каб беларуская мова і культура пашырылі свае ўплывы.

## БЕЛАРУСКІ ААЗІС

*І Беларусь дачакалася: дзе быў піянерлагер «Дружба» — то непадалёк Койданава,— цяперачы беларускі дзіцячы летнік. Пакуль што ў Рэспубліцы ён адзіны і завецца «Грунвальд». На пачатку жніўня ў «Грунвальдзе» адбылася адмысловая ўрачыстасць: Чатыры харугвы — Менская, Полацкая, Віленская і Наваградская — віталі бел-чырвона-белы сцяг. Яго ўзнялі па-над летнікам да дваццаць пятага жніўня.*

*У харугвах беларускія дзеткі. Іх за дзвесце чалавек. То галоўным чынам вучні Менскіх беларускіх класаў і школкаў. За завадатараў і выхавальнікаў у дзетак студэнты, настаўнікі, а таксама сябры ГБК (Гарадскі Бацькоўскі камітэт) Менскіх беларускамоўных класаў і школаў. Выдаткаваў грошы на гэтую пачэсную справу Менскі абласны савет прафсаюзаў.*

*На летніку створаны ўсе ўмовы для адпачынку: шасціразовае харчаванне, вандроўкі ў Нясвіж ды па каласаўскіх мясцінах, сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі, ўсялякія конкурсы ды гульні. Ажно галоўнае тое, што ў «Грунвальдзе» абышліся без расейшчыны. Таму мы цешымася з нашага дзіцячага летніку ды думаем: мо зробіцца гэта з'ява абыклаю, як у вольных народаў.*

***Л. ЧАРОН.***



Фота Анатоля КАЛЯДЫ.

Лявон БАРШЧЭЎСКІ

# НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ПАЛІТЫКА — ВЫЖЫВАННЕ

## Выступленне на сесіі Вярхоўнага Савета БССР

Камісія па нацыянальнай палітыцы не павінна зрабіцца камісіяй па антынацыянальнай палітыцы. І я тут маю на ўвазе ўсе без выключэння нацыі, што здаўна насяляюць нашу Беларусь. Тым не менш нам — і я як прадстаўнік рускай нацыянальнасці падкрэсліваю гэта — трэба ўлічваць, што калі руская, польская, яўрэйская, украінская ды іншыя культуры маюць свае шырока вядомыя цэнтры — Маскву, Ленінград, Варшаву, Кракаў, Тэль-Авіў, Кіеў, Львоў і гэтак далей,— то беларусам іх мецъ няма дзе, акрамя гэтай шматпакутнай зямлі, за якую пралівала кроў і пот не адно пакаленне людзей.

Стратэгічная мэта дзейнасці Камісіі па нацыянальнай палітыцы і міжнацыянальных зносінах мне бачыцца ў тым, каб паняцце інтэрнацыяналізм для як мага большай колькасці людзей успрымалася не на прымітыўным, побытавым узроўні, а як глыбокая, усвядомленая павага да культурных і іншых здабыткаў усіх нацый, найперш праз любоў і глыбокае веданне здабыткаў сваёй... Заўсёды бывае і так, што варожа або насцярожана прымаецца тое, чаго чалавек як след не ведае. Таму менавіта ў шырокім асветніцтве, далучэнні людзей, найперш дзяцей і маладога пакалення, да нацыянальнай культуры,— а гэтая работа карпатлівая і штодзённая,— мне бачыцца перспектыўны шлях у напрамку свядомага, а не прымітыўнага інтэрнацыяналізму. Безумоўна, нашай камісіі давядзецца папрацаваць і над новымі канкрэтнымі законапраектамі. Мяркую, што нам былі б патрэбныя комплексныя праграмы моўна-культурнай адукацыі насельніцтва БССР, Палажэнне аб нацыянальна-культурных аб'яднаннях у БССР, праграма нацыянальнай адукацыі ў БССР, пра якую тут ужо гаварылася паважанымі маімі калегамі, і гэтак далей. Канкрэтнай дапамогі патрабуюць створаныя ў рэспубліцы польскае культурна-асветнае таварыства імя Адама Міцкевіча, яўрэйскае культурна-асветнае таварыства імя Мэндэле Мойхер-Сфорыма, нацыянальна-культурнае аб'яднанне ўкраінцаў «Заповіт», армянаў «Айастан», татараў «Кітаб», азербайджанцаў «Габустан» і іншыя. У сваю чаргу мы, на мой погляд, недаравальна мала робім, каб аказаць канкрэтнае садзеянне, у тым ліку і матэрыяльнае, нашым суайчыннікам-беларусам у Маскве, Ленінградзе, Сібіры, Літве, Латвіі, Эстоніі, іншых рэгіёнах. Дапамога патрэбна беларусам Беласточчыны. Яны цяпер сутыкнуліся з праблемай, што няма паперы, каб друкаваць адзіную газету на беларускай мове ў Польшчы. Трэба завязваць на дзяржаўным узроўні больш шчыльныя кантакты з культурна-асветнымі аб'яднаннямі, што існуюць у шмат якіх краінах свету, у Злучаных Штатах Амерыкі, Канадзе, Аўстраліі і гэтак далей. Досыць нам казаць гучныя словы пра наш інтэрнацыяналізм і ніяк не рэагаваць на такое становішча, калі часопісы і газеты БССР як на беларускай, так і на рускай мове можна свабодна купіць у кіёсках Вільні, Кіева, Масквы і яшчэ шмат дзе, а выданні, што выходзяць у суседніх рэспубліках, не лічачы РСФСР, нават на рускай мове не купіш ні ў Мінску, ні ў іншых гарадах рэспублікі.

Адзін з шаноўных калег-дэпутатаў ставіў пытанне наконт стварэння механізму пераадольвання духоўнага і псіхалагічнага дыскамфорту тых людзей, што вымушаны пакідаць раёны, знявечаныя чарнобыльскай бядой. Тады гэта намі, шаноўныя калегі-дэпутаты, не было ўспрынята, як трэба. А гэта, між іншага, адна з найгалоўнейшых праблем. Удумайцеся, калі ласка. Шмат стагоддзяў нашыя продкі, якія жылі на гэтых землях, стваралі сваю культуру, усталёўвалі пэўны лад жыцця. І цяпер іх, нібы тыя вячыстыя дубы, вырываюць з зямлі, дзе яны глыбока пусцілі карані. Перасадзіць старое дрэва — гэта добра ведаюць батанікі і аграномы — вельмі складана. А мы павінны знайсці магчымасць зрабіць гэта, бо іншага выйсця ў нас няма.

Слушна сказаў шаноўны Уладзімір Кавалёнак, што наша нацыянальная палітыка павінна быць найперш скіраваная на выжыванне, на захаванне нашага генафонду. А з гэтым звязана і палітыка ўключэння тых людзей, што пацярпелі ад гэтай бяды, у культурнае жыццё, палітыка ў дачыненні да народнай тапанімікі і гэтак далей. Гэта зусім не драбяза, як можа здацца на першы погляд. Не буду спыняцца на тых кантрольна-рэгулёўных функцыях, якія давядзецца так ці інакш выконваць камісіі ў дачыненні да прынятых ужо законаў (Закона аб мовах у БССР і гэтак далей). Гэта вельмі адказны ўчастак работы, і тут давядзецца прадумаць і папрацаваць усім членам гэтай і не толькі гэтай камісіі.

Яўген ЦУМАРАЎ

# ЧАС ГУРТАВАННЯ

## Выступленне на сесіі Вярхоўнага Савета БССР

Высокі сход, глыбокапаважаны прэзідыум! Балатуючыся на пасаду старшыні камісіі, я мушу адысці ад практыкі, якая складваецца ў рабоце Вярхоўнага Савета, калі падрыхтоўчая праца сярод народных дэпутатаў вядзецца загадзя і выступленні-загатоўкі народных дэпутатаў маюць ясна акрэсленую ацэначную катэгорыю. Я не ўлічваю пры гэтым разлікі нашых палітыкаў і стратэгаў як злева, так і тым больш справа, якія часам, сапраўды, грамадскімі лічаць толькі тыя інтарэсы, што супадаюць з іх асабістымі ці групавымі інтарэсамі. У дачыненні да сваёй кандыдатуры на пасаду старшыні камісіі, якую мы разглядаем, я не вельмі турбуюся за верагодныя вынікі галасавання. Дазволю сабе прамаўляць перад Вярхоўнай Радаю, улічваючы, па-першае, тое, што прадмет дзейнасці камісіі складае надзвычай далікатнае кола пытанняў. Па-другое, тое, што парламент рэспублікі шмат гадоў падыходзіў да іх з «чорнага» ходу, з пазіцыі догмаў і памылак сістэмы агрэсіўна-адміністрацыйнага сацыялізму. І, па-трэцяе, улічыўшы тое, што такое абмеркаванне будзе карыснае для дзейнасці будучай камісіі, у якую ўвойдуць людзі далёка не з аднолькавым бачаннем свету. Міжнацыянальныя адносіны завязаны на моўна-

(Заканчэнне на 10-й стар.).

(Працяг. Пачатак на 9-й стар.).

культурных праблемах. Зыходзячы з разумення, што адраджэнне нацыянальных моў у шэрагу народаў СССР, у тым ліку беларускага, цесна паяднанага з глыбіннымі працэсамі перабудовы ў краіне і не можа мець зваротнага характару, як і сама перабудова, што гэты працэс ідзе ў віроўным рэчышчы этнічнага рэнесансу, які ахоплівае ўвесь свет і звязаны з паўсюдным абуджэннем цікавасці да нацыянальных культур, традыцый і моў, што ў мове схаваны генетычны код духоўнасці народа, яго гісторыя і яго існасць, улічваючы ўсе гэтыя абставіны, бачна, што нацыянальная праблема беларусаў набывае інтэрнацыянальны змест і становіцца клопатам і ўсіх тых прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў, якія жывуць у рэспубліцы. Гэтаксама як і жыццё або смерць біялагічнага віду з'яўляецца не праблемай гэтага віду, а агульнай біялагічнай праблемай. Таму, адкінуўшы ўсе развагі, паважаныя народныя дэпутаты, трэба пачаць ліць ваду, урэшце, і на наш беларускі млын. Спынімся на хвіліну, азірнемся і задумаемся, хто мы, чаго вартыя ў гэтым неспакойным свеце, сярод супольнасці больш чым дзвюх тысяч народаў і моваў. Не шматмоўе, не прывязанасць да сваёй Айчыны раздзяляе народы, а антыдэмакратычная, антыгуманная, эгаістычная палітыка ўрадаў і кіраўнічых колаў. Тая палітыка, якая за шырмай лозунгаў пра дружбу народаў мела месца і ў нас. Уся гісторыя беларускай культуры і мовы ў БССР, пачынаючы з 30-х гадоў, — гэта пакутлівае блуканне па догмах. Догмы пра старэйшага брата, пра адзіную мову камуністычнага грамадства, якая, як выявілася, аб'ядноўвае не народы, а натоўпы насельніцтва. Догма пра двухмоўе, увасабленне якой прыводзіць да паўмоўя цэлыя пакаленні беларусаў. На пазбаўленне і пераадоленне ў грамадскім жыцці дагматызму трэба у першую чаргу скіраваць дзейнасць камісіі.

Забеспячэнне дзяржаўнага кантролю за выкананнем Закона аб мовах БССР у дачыненні як да беларускай, так і да іншых моваў, якімі карыстаюцца нацыянальныя групы насельніцтва Беларусі,— другая маштабная задача працы камісіі, праца гэта ажыццяўляецца з улікам таго, што дзяржаўнасць беларускай мовы БССР не мяняе механічна месцамі рускую і беларускую мовы, робячы апошнюю прывілеяванай. Кампенсацыя — гэта не прывілея, адраджэнне — гэта не прымус, а вяртанне разам з нацыянальным суверэнітэтам нацыянальнай мовы.

Удзел у распрацоўцы канцэпцыі нацыянальна-дзяржаўнага суверэнітэту рэспублікі з улікам інтарэсаў розных нацыянальных груп яе насельніцтва — яшчэ адзін кірунак працы камісіі. У гэтай сувязі ўяўляецца справядлівым у Закон аб выбарах народных дэпутатаў БССР і мясцовых Саветаў народных дэпутатаў унесці заканапалажэнне аб праве нацыянальна-культурных таварыстваў Беларусі, асабліва адносна нешматлікіх нацыянальных груп татараў, цыганоў, яўрэяў і іншых на гарантаванае абранне хаця б аднаго народнага дэпутата БССР і аднаго народнага дэпутата мясцовых Саветаў у месцы кампактнага пражывання нацыянальных груп, як гэта мае месца для арганізацый інвалідаў.

У найбліжэйшы час камісіі на заканадаўчым узроўні належыць вырашаць яшчэ тры праблемы, унесеныя жыццём. Першую, звязаную з ростам уплыву каталіцкай царквы, якая становіцца магутным сродкам апалячвання беларусаў. З двух мільёнаў католікаў Беларусі каля 400 тысяч пішуцца палякамі. Паводле перапісу 1979 года, толькі 7,8 працэнта палякаў у рэспубліцы валодалі польскай мовай. Для СССР гэты паказчык складае 29,1 працэнта, як ні дзіўна. Відавочна, што патрэбны школы, нацыянальны друк і іншае на польскай мове. Аднак зыходзіць трэба не з падачы польскамоўнага каталіцкага касцёла і тых асобаў высокага савецка-партыйнага кіраўніцтва Гродзенскай вобласці, якія яго падтрымліваюць, а грунтуючыся на навуковым гістарычна-сацыяльным аналізе. Я ўжо прыводзіў на прыкладзе Гудзевіцкай сярэдняй школы Мастоўскага раёна, дзе працуе заслужаны настаўнік БССР Алесь Белакоз, як дзесяткі беларускіх дзяцей толькі за адно пакаленне ператварыліся ў польскіх.

Другая праблема. Чарнобыль — не толькі фізічная, экалагічная, медыцынская катастрофа, але сацыяльная і нацыянальна-культурная. На жаль, у свой час паважаны народны дэпутат Смоляр не гатовы быў даць адказ, як пры перасяленні тысяч людзей захаваць не адно фізічны, але і этна-культурны генафонд нацыі. Права на яго захаванне трэба і прадугледзець пры стварэнні Закона аб статусе экалагічных бежанцаў, ахвяр Чарнобыля.

Трэцяе. Арганізацыя дапамогі ў культурна-асветніцкай дзейнасці беларусам за межамі СССР. Дзякуючы ўраду таварыша Кебіча штосьці пачынае ўжо рабіцца. Але яшчэ належыць пашыраць на прылеглыя да БССР рэгіёны трансляцыю беларускага тэлебачання, радыёвяшчання, забяспечыць там жыхароў-беларусаў беларускім перыядычным друкам, падручнікамі, літаратурай, відэафонаматэрыяламі. Варта падумаць і пра прыняцце закона аб праве беларусаў незалежна ад іх грамадзянства на карыстанне нацыянальнай культурнай спадчынай, на частковае забеспячэнне патрэб у іх культурна-асветніцкай дзейнасці за кошт дзяржаўнай датацыі БССР. Колькі народаў, культур — гэтулькі нацыянальных сістэм асветы. За 70 год у рэспубліцы не створана канцэпцыя беларускай нацыянальнай школы. І гэта ў краі, у якім яшчэ ў дзесятым стагоддзі атрымалі пашырэнне школы класічнага тыпу, у краі, у якім упершыню ў Еўропе ў XVIII стагоддзі ўзнікла Адукацыйная камісія, у краі, у якім за пяць год Савецкай улады ў 1926 годзе была створана сістэма нацыянальнай асветы, што ўключала звыш чатырох тысяч беларускіх школ пры адной у 1915 годзе, і яшчэ школы на сямі мовах нацыянальных меншасцяў. Аднак пазней і да цяперашняга часу нацыянальная школа Беларусі больш страчвала, чым набывала. Адчувальнай сталася гібель разам з іх канцэпцыямі і маштабнымі планамі шасці наркомаў асветы БССР: Чарвякова, Ігнатоўскага, Баліцкага, Дз'якава, Платуна, Саевіча. Таму камісіі трэба пачынаць у школьнай справе працу над стварэннем канцэпцыі сістэмы рознамоўных школ Беларусі і давядзецца пачынаць практычна з нуля, а ў шэрагу выпадкаў нават са знакам мінус. Напрыклад, як выправіць хіл у нацыянальным складзе выкладчыцкага корпусу ВНУ рэспублікі, калі толькі 44 студэнты з іх складаюць беларусы? Для комплекснага вывучэння пастаўленых задач неабходна пры камісіі ці ў рамках іншых структур стварыць даследчы цэнтр беларускага этнасу ва ўсім свеце і этнічных груп насельніцтва Беларусі, які будзе закліканы не толькі каардынаваць працу даследчыкаў-беларусазнаўцаў і славяназнаўцаў краін усяго свету, а таксама прагназаваць і мадэляваць ход культурных і міжнацыянальных працэсаў, але і выпрацоўваць практычныя праграмы, рэкамендацыі па ажыццяўленні сацыяльна-дэмаграфічнай і моўна-культурнай палітыкі. У гэтым ланцугу стаіць пад сумненнем мэтазгоднасць масавай міграцыі рабочай сілы з-за межаў рэспублікі на гіганты індустрыі, якія ўзводзяцца на Беларусі, тым часам, як трэба ствараць рабочыя месцы, везці перасяленцаў з заражаных радыяцыяй раёнаў.

Ёсць і другая праблема. На тэрыторыю Гомельскай, Магілёўскай абласцей прыязджаюць людзі. Нельга пра іх гаварыць блага, аднак яны наўрад маюць ярка выражанае сыноўняе пачуццё да гэтай зямлі. Мы ведаем, як няўтульна жыць у камунальнай кватэры; часовы гаспадар — не гаспадар. Праз пэўны час пятая частка Беларусі можа стаць такой камунальнай кватэрай. Трэба прадбачыць і папярэдзіць узнікненне там міжнацыянальных канфліктаў, нейтралізаваць сіндром «перакаціполя», зберагчы гэтыя землі менавіта як беларускія землі і захаваць іх мікракультуру.

Што такое культура міжнацыянальных адносін? Ці не яе ў 50-я гады праявіў слынны беларускі пісьменнік Караткевіч, калі яго, беларуса, выганялі з Кіеўскага універсітэта за украінскі нацыяналізм, што на мове застойных часоў азначала глыбокапаважлівае стаўленне да братняга украінскага народа. Ці не гэткую ж культуру праявіў украінец Ян Гамарнік, першы сакратар ЦК КПБ у 28—29 гадах, які размаўляў з беларускім народам на беларускай мове і які быў пазней абвінавачаны ў беларускім нацыяналізме і знішчаны. Відаць, ёсць сваё разуменне культуры міжнацыянальных адносінаў ў старшыні аналагічнай камісіі Вярхоўнага Савета СССР таварыша Таразевіча, які заявіў пры сваім абранні на гэтую пасаду, што валодае роднай беларускай мовай, не спяшаючыся публічна выступаць на ёй нават у аўдыторыі, дзе гавораць выключна на беларускай мове, напрыклад, летась на педагагічнай канферэнцыі свайго роднага Мядзельскага раёна, на якой выступаў цяперашні прамоўца. Відаць, моцнае яшчэ разуменне двухмоўя ў высокага начальства, як вуліцы з аднабаковым рухам. Цяпер не-не, ды яшчэ часам можна пачуць выказванні пра пагрозу беларускага нацыяналізму ў рэспубліцы, якія пры ўмове нізкай нацыянальнай свядомасці беларусаў выглядаюць гэтак жа недарэчна, як і чытанне галодным лекцыі пра шкоду пераядання. Аднак у такіх выказваннях тоіцца не толькі недарэчнасць, але і абраза для людзей. Пудзілам, як мае быць, застрашваюць варон, а не народ, як гэта робіцца, які да таго ж засведчыў за ўсю сваю гісторыю нацыянальна -рэлігійную талерантнасць, павагу для блізкіх і далёкіх народаў.

# НАДСАН

Надсан тамака, дзе гіне і адраджаецца Беларусь.

Ён Апостальскі Візытатар для беларускіх грэка-каталікоў. Ён Кансультатар Кангрэгацыі Усходніх Цэркваў. Ён старшыня Беларускага Камітэту дапамогі ахвярам радыяцыі, які створаны ў Англіі.

Гэта сведчыць пра шмат, але не пра ўсё. Ён — Беларус.

Айцец Аляксандр Надсан раптоўна з'явіўся на Беларусі і за час сваіх двух візітаў спарадзіў шмат усялякіх пагалоскаў. Апошняга часу то дужа загадкавая асоба, пра якую гавораць і пішуць у Рэспубліцы рознае.

Надсана не запрашаюць да афіцыйных прэзідыумаў, ён мала сустракаецца з прадстаўнікамі ўладаў. Ён па родных гонях гуляе адзінцом. (Праз гэта нашых няўрымслівых ідэолагаў часам, бывае, перасмыкае).

У часе сваіх двух візітаў на Беларусь Надсан тамака, дзе яшчэ дыхае Беларушчына. Ён служыць Літургію за Беларускі народ, ён наведвае раёны, атручаныя радыяцыяй, ён з'яўляецца ў шпіталі каля хворага паэта Сяргея Новіка-Пяюна, прыязджае ў Гудзеўскі музей... Медычныя сродкі, якія Надсан прывозіць з сабою, дапамагаюць пазбавіцца хваробаў нашым дзеткам.

Ён прыемны, жартаўлівы чалавек з вялікім розумам і шчыраю ўсмешкаю. На ягоную галаву лье бруд камуністычная прэса, і ў ягоны гонар пляскае ў ладкі на сесіі Вярхоўны Савет Рэспублікі. Наконт дэпутацкіх авацыяў а. Надсан праз сваю сціпласць вялікага задавальнення не паказвае, а паводле цкавання, што ўсчаў партыйны друк, кажа: «Мухі асабліва злосна ядуць ўвосень».

Невядома, ці доўга яшчэ працягнецца палітычная восень у Рэспубліцы. Але як прыгледзішся, дык усё выдае на тое, што хаця марудна ды пасоўваемся мы бліжэй да прадвесня. І візіты Надсана таксама пра гэта гавораць.

Сам святы айцец за прагнозы не бярэцца. Ён больш улягае ў службу Богу. На вечарыне беларускае вуніяцкае моладзі Надсан сказаў: «За мяжою мы маліліся і молімся на роднай мове за ўсіх Беларусаў. Гэтай бо магчымасці яны доўгага часу пазбаўлены».

Як добра, што Беларусь мае Надсана. Ён памоліцца за нас, прывязе дэфіцытных лекаў нашым дзеткам, дый чалавек не крыўдлівы — з лаянкі ў легальнае газэце адно пасміхаецца.

Лёнік ДУБРОВА.

НА ЗДЫМКУ: Надсан у часе наведвання ТБМ імя Францішка Скарыны і рэдакцыі «Наша слова».

Фота Алеся Крыштаповіча.



# ЖНІВЕНЬ

*Дзе каза нагою, там жыта капою... Задоўга да жніва пачыналі нашы продкі клапаціцца пра будучы ўраджай. Яны не толькі старанна аралі і сеялі, але і выконвалі розныя абрады. Калядными песнямі і гульнямі людзі стараліся здабыць прыхільнасць прыроды, асабліва сонца, запэўніць шчодрасць маці-зямлі.*

*Людскі пот і мазалі прыносілі багаты плён. Наступаў час жніва. Да яго, як да свята — свята душы — рыхтаваліся загадзя. Як мяркуюць этнографы, купальскія скокі цераз агонь — абрад ачышчэння перад жнівом. Да святое справы — чыстымі...*

*Славянскія жніўныя абрады ўражвалі арабскіх падарожнікаў...*

*Зажынкі. Першы сноп... Яго неслі дадому, і там, у хаце, як самага жаданага госця, ставілі на покуці. Першы сноп звязваў у адзіны ланцуг летнія і зімовыя абрады.*

*Дажынкі. «Завіванне бароды». Жнеі пакідалі няжжатай жменю сцяблін жыта, скручвалі і клалі пад іх хлеб-соль — спажыву Жыценю, «гаспадару» поля. А ўпрыгожаны важкі сноп неслі, спяваючы песні, гаспадару. Славуты рэктар першага Чылійскага універсітэта Ігнат Дамейка, калі ўлетку 1884 года, пасля пяцідзесяці трох гадоў выгнання, прыехаў на родную зямлю, напісаў у сваім дзённіку, як святкавалі дажынкі ў Сачыўках, што па-над Шчараю, недалёка ад Баранавічаў.*

*Жніво... Балелі рукі ад сярпа, але душа радавалася цяжкому калоссю, важкім снапам — і нараджаліся песні. Неабходнасць жніва і песняў, пэўна, перадавалася кожнаму беларусу спадчынна, як цяпер кажуць, праз гены. Бо як жа інакш змог бы Максім Багдановіч, які вырас далёка ад роднай зямлі, адчуць неразлучнасць працы і красы — збожжа і васількоў.*

*Горкае сёлета жніво. Але яно пачалося не чатыры гады назад, а працягваецца з 1655 года, калі царскія палкоўнікі Якаўлеў і Малыгін спалілі ў ваколіцах Азярышча (Езярышча), што ў цяперашнім Гарадоцкім раёне на Віцебшчыне, спелую збажыну, каб скарыць непакорных.*

*Алесь Разанаў шмат гадоў назад у «Паэме жніва» роспачна лемантаваў, аглядаючы Роднае Поле, якое выбіў град, аскублі жабракі, здратавалі звярыныя зграі... Засявалі яго зернем, а яно зарасло куколлем... Ці прагучаць над ім жніўныя песні?*

*Мова — душа народа. Хворая душа — скалечаная мова. Знікаюць з нашай мовы словы жаць, жніво, жнівень... А скрозь буйна цвіце «куколле»: убіраць, уборка, аўгуст... «Язык без касці» плешча, навыклая да пяра (не сярпа) рука піша «аўгуст месяц», бо інакш жа не зразумее другі чалавек, што гэта: імя ці летняя пара, калі жнуць жыта.*

*А як жа трапна і прыгожа — жнівень.*

Здзіслаў СІЦЬКО.

Зміцер САНЬКО

# НЕ ТОЕ КАЖЫ, ШТО

Публікацыя беларускіх адпаведнікаў да шырока вядомых рускіх прыказак і прымавак, змешчаная ў «Нашым слове» (№ 3), сустрэла прыязныя водгукі чытачоў. Таму я наважыўся даць працяг гэтага «слоўніка», спадзеючыся, што ён будзе карысны ўсім, хто імкнецца ўдасканаліць сваю мову.

**Атаманом артель красна** — Хвала ваяводзе, што войска ў згодзе; За ваяводам гожым усё зможам; За добраю радай красуе грамада.

**Без труда не вытащишь и рыбку из пруда** — Трэба нахіліцца, каб з ручая напіцца; Каб рыбу есці, трэба ў ваду лезці.

**Береженого и Бог бережет** — Хто сам сябе сцеражэ, таго й Бог беражэ; Асцярожнага Бог сцеражэ.

**Бог видит, кто кого обидит** — Бог не цяля, бачыць круцяля; Бог не Мікітка, павыламіць лыткі; Бачыць Бог з неба, што каму трэба.

**Была бы шея, а ярмо найдется** — Быў бы араты, будзе й прыганяты; Былі б дурні, а паны знойдуцца; Абы спіна — пуга знойдзецца.

**Был конь, да изъездился** — Быў конь, ды з'езджаны, быў хлеб, ды з'едзены; Быў піўнічым, а застаўся нічым; Быў калісьці Яўхім, ды цяпер чорт яго ўхапіў.

**Век долог — всем полон** — Век звекаваць — усяго спазнаць; На год сем прыгод, а на вяку — без ліку; Трапіцца на вяку варыць капусту і ў гляку.

**Велика Федора, да дура** — Вырас пад неба, а дурань як трэба; Байбусам вырас, ды розуму не вынес; Рост чалавечы, а розум авечы.

**В каждой шутке есть доля правды** — Жарты нічога не варты, але часам праўдзяцца; Часам жарты выходзяць на праўду.

**В огороде бузина, а в Киеве дядька** — Гэты пра воз, а той пра коз; Хто пра хату, а хто пра лапату.

**Волка ноги кормят** — Ста́рца кій корміць; Пасланцамі воўк не сыты; Ваўка ногі жывяць.

**Ворон ворону глаз не клюет** — Драч драчу не дзярэ ачу; Вужака вужаку не джаліць; Крук крука за чуб не бярэ.

**В семье не без урода** — Няма роду без выроду; Няма лесу без воўка, а сяла без злодзея; І на здаровай яблыні гнілы яблык знойдзецца.

**Всякому овощу свое время** — Будзе час — будзе й квас, не ўсё за раз; Будзе пара́ — вырасце трава; Свой час ягадзе, свой час баравіку.

**Всяк сверчок знай свой шесток** — Ведай, каток, свой куток; Калі ў кепскім кажусе, не садзіся на куце.

**В тихом омуте черти водятся** — І чорт ціхма́нам быў; Ціхая вада грэблю рве; Хто ціха ходзіць, той густа месіць.

**В чужом пиру да похмелье** — Ад чужога шалу ў галаве круціцца; Хто піў, а ў каго галава баліць; За чужыя грахі пакута.

**Где много слов, там мало дела** — Слоў — на мех, а спраў — на смех; Языком у Вільні, а галавою за печчу; Каб так смыкам, як языкам.

**Глаза видали, что покупали** — Бачылі вочы, што бралі, а цяпер плачце, хоць павылазьце; Ці міла, ці няміла, але грошы плаціла — трэба есці.

**Говорят, что кур доят** — Кажуць, што і масла хлебам мажуць; Людзі чаго не скажуць — і смаленую кабылу змажуць; Усялякае бывае: жук рыкае, а карова лятае.

**Голодной куме хлеб на уме** — Галоднай курцы проса на думцы; Галодны — пра хлеб, п'яны — пра хмель; Галоднаму каню авёс сніцца.

**Гора родила мышь** — Шырокі двор, ды невялікі збор; З вялікае хмары малы дождж; З вялікага гуку не будзе чаго браць у ру́ку.

**Горбатого могила исправит** — Гарбатага выпрастае магіла, а ўпартага — дубіна; Крывога дрэва не выпрастаеш.

**Готовь летом сани, а зимой телегу** — На свята думай пра будзень, а ўлетку пра зіму; Ладзь калёсы зімою, а сані летам.

**Гром не грянет — мужик не перекрестится** — Як трывога, тады да Бога; Пакуль пярун не грымне, чалавек яму не паклоніцца.

**Гулять смолоду — помирать под старость с голоду** — Хто замоладу не працуе, той на старасць жабруе; Не хочаш у маладосці працаваць, будзеш на старасці з торбачкай танцаваць.

**Дают — бери, бранят — беги** — Калі верацъ, не бажыся, калі б'юць, не прасіся; Што кажуць — рабі, што даюць — бяры.

**Двум смертям не бывать, а одной не миновать** — Не бываюць дзве смерці, а раз трэба памерці; Што будзе, то будзе, а дзве смерці не будзе; Раз радзіла маці, раз трэба паміраці.

**Долг платежом красен** — Што вінен, аддаць павінен; Любіш брацъ — любі й аддаць; Прыйшоў з мехам, не адбудзеш смехам.

**Дома стены помогают** — У сваёй хаце і вуглы памагаюць; У сваёй хаце й качарга помач.

**Дорога ложка к обеду** — Дарагое яечка да Вялікадня; Дождж у пару, што золата; Не ў час лыжка па абедзе.

**Дорого, да мило, дешево, да гнило** — Прыгажэйшае — даражэйшае, а што заганнае, тое таннае; За тавар гнілы і грош малы; Якія грошы, такі й тавар.

**Дуракам закон не писан** — Дурны законаў не чытае, ды свае мае; Для вар'ята няма свята; Дурны сабака й на гаспадара брэша.

**Дураков не сеют, они сами родятся** — Дурняў не сеюць і не жнуць, яны самі растуць; Добрую траву чалавек сее, а ліхая чорт ведае адкуль бярэцца.

**Дурное дело нехитрое** — Як мукі скрыня, то й свіння гаспадыня; І няўмека спячэ, як з засека цячэ; І баран бы касіў, каб хто касу насіў.

**Если бы да кабы выросли во рту грибы** — Каб на хмель не мароз, ён бы тын перарос; Каб на дзятла не стралец, быў бы дзяцел маладзец; Кап, кап — ды не цячэ.

**Ешь — потей, работай — мерзни** — На яду мастак, а на работу сяк-так; Як да чаркі — скоры, як да працы — хворы; Рабіць наш Васіль не мае сіл, а як на клёцкі ў малацэ — за чацвярых валачэ.

**Жизнь прожить — не поле перейти** — Век звекаваць — не пальцам паківаць; Век зжыць — не мех сшыць; Жытку пражыць — не люльку выкурыць.

**За двумя зайцами погонишься — ни одного не поймаешь** — Хто два зайцы гоніць, ніводнага не здагоніць; Хто зашмат жадае, той нічога не мае.

**За деревьями леса не видит** — Па хаце ходзіць, а дзвярэй не знаходзіць; Па гары ходзіць і сонца не бачыць.

**Запретный плод всегда слаще** — Як кажуць «не», то хочацца ўдвайне; Чаго не вольна, таго й карціць; Дзе плот ды дзядуля, там смачныя дулі.

**За что купил, за то и продаю** — Што на язык, то і з языка; Што пачуў, тое й сказаў.

**Или полковник, или покойник** — Ці пан, ці прапаў; Ці паскачаш, ці паплачаш.

**И на старуху бывае проруха** — І хітры ліс у пастку трапляе; І на дзеўку грэх бывае; І ў цесце можна палец вывіхнуць.

**Каков вопрос, таков и ответ** — Якое пытанне, такое адпавяданне; На добрае запытанне добрае і адпавяданне.

**Каков поп, таков и приход** — Якая рада, такая і грама́да; Які пастух, такая й чарада.

**Кто вино любит, тот сам себя губит** — Хто па гарэлку часта ходзіць, той сам сабе шкодзіць; Чорту душу аддаў, бо часта ў чарку заглядаў; Вада жывіць, а гарэлка губіць.

**Кто ищет, тот найдет** — Хто пытае, той не блудзіць,

# БЕЛАРУСКАЯ КАТАЛІЦКАЯ ГРАМАДА

У чэрвені ў Менску адбыўся сход гарадской каталіцкай грамады. Сход абраў касцельную Раду і Арганізацыйны камітэт па стварэнні Беларускай Каталіцкай Грамады. У камітэт увайшлі Сяржук Абламейка, Віктар Барташэвіч, Данута Бічэль-Загнетава, Ігар Вашкевіч, Часлаў Вайткевіч, Аксана Верамей, Пятрусь Гушча, Мікола Купава, Лявон Ліпень, Аляксандра Лісоўская, Людвіка Лямбовіч, Вінцэсь Манько, Лілея Матусевіч, Уладзімір Папруга, Яўген Шунэйка, Фэлікс Янушкевіч.

У адозве, што была прынята на гэтым жа сходзе, запісаны і гэтакія словы: «За гады панавання таталітарнай камуністычнай сістэмы на Беларусі наш народ зазнаў нечалавечыя выпрабаванні: пад забаронай апынуліся рэлігія, разбураліся выдатныя помнікі беларускай культуры, нявечыліся гістарычная памяць народа і спрадвечная ягоная народная мараль. Выкарчоўвалася родная мова. Яна была цалкам выгнана з дзяржаўных установ, школаў, універсітэтаў. Антыгуманная сістэма дзеля раскола народа, ягонай дэнацыяналізацыі і канчатковага знішчэння заахвочвала ўжыванне чужых словаў у Царкве і Касцёле. Усялякія спробы ўжытку беларускай мовы ў канфесійным жыцці ўлады сустракалі варожа, каталіцкія і праваслаўныя святары пад палітычным уплывам суседніх дзяржаваў падзялілі беларускі народ на «палякаў» і «рускіх». Нават памерлы беларус назаўсёды атрымлівае надмагільны крыж ці камень з рускім або польскім надпісам Беларускі народ апынуўся на мяжы свайго духоўнага выраджэння.

Браты і сёстры! Каталікі і праваслаўныя! Дзеці зямлі Беларускай! Нас доўга раз'ядноўвалі бар'еры, якія збудаваныя не намі. Нас доўга раз'ядноўвалі догмы і нават чужыя словы. Сёння нас павінна аб'яднаць ідэя адраджэння Бацькаўшчыны, нас павінна аб'яднаць беларуская мова, мова нашых продкаў, мова Полацкай Дзяржавы і Вялікага княства Літоўскага, мова вялікіх Альгерда і Вітаўта, Скарыны і Купалы. Мы можам належаць да розных канфесій, але нас лучыць адзіны Бог, адзіная Беларусь. Мы сёння выказваем волю садзейнічаць адраджэнню Беларускага касцёла, духоўнасці нашага народа, ягонай гістарычнай памяці. Ідэю адраджэння беларускага Касцёла будзе здзяйсняць арганізацыя беларускіх каталікоў — Беларуская Каталіцкая Грамада.

Беларуская Каталіцкая Грамада ствараецца беларускімі каталікамі, якія падтрымліваюць ідэю беларусізацыі духоўнага жыцця ў рэспубліцы, вяртання беларускага Касцёла да нацыянальных вытокаў, аднаўлення ў храмах роднай беларускай мовы, выхавання ў народа беларускага патрыятызму, развіцця нацыянальнай культуры і школы».

# ТБМ У НІЖНІМ НОЎГАРАДЗЕ

Трыццатага ліпеня гэтага года ў Ніжнім Ноўгарадзе створана суполка ніжагародскіх спадароў-аматараў і прыхільнікаў беларускай мовы ды нацыянальнай культуры «Зьніч» імя Максіма Багдановіча. У ейны склад увайшлі шэсць чалавек розных узростаў і прафесій. Яны ставяць на мэце весці культурна-асветніцкую дзейнасць сярод беларускамоўнага насельніцтва, якога нямала жыве ў горадзе, прапагандаваць нашую культуру па-за межамі Беларусі. Сталага адрасу суполка пакуль не мае. Сходы праходзяць на кватэрах сяброў «Зьніча». Ніжагародская беларуская спадарства звярнулася ў Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны з просьбаю прыняць іх у склад ТБМ.

# СА ЗВАРОТУ БАРАНАВІЦКАЙ РАДЫ ТБМ ДА НАСТАЎНІКАЎ БЕЛАРУСІ

Цяпер, калі народ прабудзіўся ад сну і шукае тае карацейшае дарогі ў нацыянальна-культурным жыцці, грэх вам, настаўнікі, заставацца маўклівымі сведкамі народнага руху.

Будзьма роднымі атожылкамі тых каранёў, з якіх выйшлі, а не апалым з дрэва лісцем, якое лёгка ляціць разам з ветрам. Калі мы хочам, каб народ слухаў і паважаў нас, мы мусім гаварыць да яго на той мове, якую ён атрымаў у спадчыну ад дзядоў сваіх і бацькоў, якую ён захоўваў для сваіх дзяцей, якою надзяліла яго матка-прырода.

Настаўнікі павінны быць яснымі зоркамі, якія высвечваюць шлях адраджэння, павінны быць апосталамі і пайсці да народа з радаснай весткаю, што ўваскрэсла Беларусь.

# ВЫДАННЕ СЯБРЫНЫ ТБМ

У жніўні пабачыў свет першы нумар часопіса «Унія». Яго выдаўцы маладыя беларусы, што ў ліпені згуртаваліся ў суполку «Унія» і зарэгістраваліся як сябрына Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны. Скарыстаўшы права юрыдычнае асобы, суполка занялася выдавецкай справаю і зараз з гэтага мае дыхтоўны часопіс на трыццаці двух старонках.

У ім ідзе гаворка пра Вуніяцтва на Беларусі, пра веру Богу і сваёй Бацькаўшчыне, друкуюцца малітвы, рэлігійныя песні ды гімны, вершы беларускіх паэтаў.

У звароце да хрысціянаў выдаўцы кажуць: «Называецца вера наша Грэка-Каталіцкая,або Уніяцкая. А знішчылі яе за тое, што ёю трымалася і жыла так нялюбая Маскве беларускасць.

Мы паспрабуем расказаць у гэтым выданні, што самі ведаем пра нашую Унію. На пачатку нумара мы змясцілі беларускі шасціканцовы крыж — крыж Святой Ефрасінні Полацкай, нябёснай апякункі Беларусі. А вакол яго — уніяцкі Сымбаль веры. І кожны наступны нумар будзем пачынаць з малітвы. Бо малітва — гэта яднанне з Богам, яна ачышчае й узвышае».

Часопіс выходзіць накладам 10 000 асобнікаў. Каштуе два рублі. На грамадскіх асновах яго рэдагуе рэдакцыйная калегія.




1·1990
МЕНСК

ВЫДАНЬНЕ БЕЛАРУСКАЕ УНІЯЦКАЕ МОЛАДЗІ

# ЛІСТЫ НА АДРАС «НАШАГА СЛОВА»

## ГАВАРЫЦЕ ПА-БЕЛАРУСКУ

Дзіўна і прыкра, што ў парламенце Беларусі амаль не чутно дзяржаўнае беларускае мовы. Наспеў час авалодаць словам Францішка Скарыны, Кастуся Каліноўскага, Францішка Багушэвіча, Янкі Купалы, іншых славутых сыноў Бацькаўшчыны. На народных абранніках з надзеяй глядзяць беларусы з усіх куткоў свету. Няхай урэшце Беларусь будзе Беларусяй!

Са звароту рады Маскоўскага Таварыства Беларускай мовы імя Францішка Скарыны да дэпутатаў Вярхоўнага Савета БССР.

## ЧЫМ ЖА ЎГНЯВІЎ ВАС ЯНКА КУПАЛА?..

Звычайна, калі бываю ў Менску, завітваю да дзядзькі Якуба Коласа, прайдуся па залах ягонага музея, сустрэнуся з братамі Данілам, Міхасём. Завязваецца гаворка не толькі пра тыя сцежкі, па якіх ступаў дзядзька, пра сад і дрэвы, што былі пасаджаны рупліваю рукою гаспадара, але і пра апошнія падзеі ў свеце. Сёння паўсюдна ідзе адраджэнне нацыянальнай культуры, аднаўленне помнікаў, ідзе змаганне за права людзьмі звацца... Мая пляменніца Вера, дачка Данілы, узрушана гаварыла пра лёс роднай мовы ў школе № 19 па вуліцы Залатая Горка нашай сталіцы. Унукі і праўнукі паэта вучыліся і вучацца ў гэтай школе. Закончыла яе і Вера. Таму не выпадкова дамагалася, каб запісалі ў беларускі клас яе дачку. Спаткала настаўніцу па беларускай мове Б. Б. Каждан і выказала свой намер. Была цвёрда ўпэўнена: пытанне вырашыцца станоўча, бо бацькоўская мова стала дзяржаўнай. Пазнаёмілася з пастановай рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі «Дзяржаўнасць беларускай мовы: праблемы і шляхі ажыццяўлення», дзе, прынамсі, запісана: «Аднавіць у першую чаргу выкладанне на беларускай мове і выхаванне на аснове нацыянальнай культуры, народнай педагогікі і маралі ў тых школах Беларусі, якія носяць імёны знакамітых людзей Бацькаўшчыны».

Дарэчы, школа па вуліцы Залатая Горка носіць імя Янкі Купалы. Але ж гэтае права трэба заслужыць. *Школа тут фактычна руская.* Няўдзячныя нашчадкі па-спажывецку глядзяць на духоўныя каштоўнасці свайго народа. Шмат каму, магчыма, паганіць слых, калі чуюць крынічную, сакавітую, матчыную мову. Відаць, яшчэ, на жаль, ёсць паслядоўнікі М. А. Суслава, які ў недалёкія часы стаяў на чале ідэалагічнай службы краіны і дабіваўся хутчэйшага зліцця нацый, іх моў і культур.

Хацелася б запытацца ў дырэктара школы В. М. Варыводы: чым жа ўгнявіў Вас Янка Купала?.. Учытайцеся ў словы легендарнага паэта:

Стаім мы перад будучыняй нашай<br>
І ўсе варожым, сочым ейны ход...<br>
Ці ўскрэснем мы, душою, упаўшы, звяўшы,<br>
Каб выйсці ў свет, як нейкі здольны род...

Няма павагі да Бацькаўшчыны, калі ты не паважаеш яе мову. Загадчыца навучальнай часткі па пачатковых класах В. А. Александровіч лаканічна тлумачыла: «В школе нет классов с преподаванием на белорусском языке и не предполагается в этом учебном году. Нет нужного количества детей, родители которых пожелали бы учить их на родном языке...» Выходзіць на тое, што праўнукам Якуба Коласа, духоўнага брата Янкі Купалы, не дазваляецца вучыцца на роднай мове. Паўстае пытанне: чаму школа № 19 не займаецца растлумачальнай работай па адраджэнню роднай мовы сярод бацькоў? Чаму і па якому праву школа носіць імя Янкі Купалы?

Сымон БЕЛЫ,<br>
мястэчка Радашкавічы.

## ЦІКАЎЛЮСЯ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРАЮ

Шаноўныя панове!

Пішу па-польску, бо беларускую мову толькі асвойваю. Часта слухаю беларускія перадачы з Мюнхена, Ватыкана і гэтаксама з Менска на кароткіх радыёхвалях, з Вільні — на сярэдніх (у суботы). Адсутнасць якога-небудзь падручніка не дазваляе на больш грунтоўнае вывучэнне.

Я вялікі прыхільнік беларускае мовы, беларускага нацыянальнага адраджэння і наогул Беларусі. У час маёй апошняе пабыўкі ў Менску я купіў першы нумар вашага бюлетэня, які вельмі спадабаўся мне. З яго даведаўся шмат падрабязнасцяў пра Таварыства беларускае мовы, а гэтаксама пра тое, што яму можна дапамагчы фінансава. Я хацеў бы пералічыць на рахунак Таварыства 100 долараў ЗША і прасіў бы шаноўных паноў паведаміць мне нумар валютнага рахунка, на які мог бы зрабіць перавод з Польшчы.

Апрача гэтага цікавіць мяне падпіска на штомесячнік «Наша слова» і я прасіў бы таксама паінфармаваць мяне, ці можна ў Польшчы залатвіць падпіску. Да ўсяго гэтага я быў бы вельмі ўдзячны, калі б панове дапамаглі мне набыць магнітафонную касету з песнямі Данчыка, якія я неаднойчы слухаў на хвалях радыё «Свабода» і вельмі хацеў бы мець ягоныя запісы.

З павагаю —

Жыве Беларусь!<br>
Марэк РАДЗІМСКІ.

Гданьск, 1.5.1990.<br>
Пераклад з польскай.

## ПАТРЭБНА ХУТКАЯ РЭФОРМА

Беларускі ветрык крыхупакрыху павявае і на Бабруйшчыну. На гарадскіх крамах, кнігарнях, іншых установах з'явіліся беларускія надпісы. Асобныя кіроўцы аўтобусаў і тралейбусаў пачалі рабіць абвесткі па-беларуску. З'явіўся ў горадзе культурна-асветніцкі клуб «Гоман». Але ж родная мова пакуль пануе ў вузкім коле людзей. Таму гэта трэба скарыстаць.

Год таму, калі ўшчыльную заняўся вывучэннем мовы, мяне ашаламіла «калхознасць» (слова «трасянка» тады яшчэ не ведаў) асобных словатвораў. Азнаёміўся з «Трасянка-беларускім слоўнікам» і жахнуўся. Мове патрэбна неадкладная рэформа, якая б ачысціла. Чым хутчэй, тым лепей. Уявіце сабе, колькі за час чакання — рыхтавання рэформы будзе выкінута грошай на шыльды «Аптэка» (а не «Зельня»), «Магазін» (а не «Крама») і гэтак далей.

Вінцэсь МАЛІНОЎСКІ,<br>
намеснік старшыні<br>
Першамайскай Рады ТБМ<br>
імя Ф. Скарыны.

## З МОЎНЫХ ЖАРТАЎ

### Не абразом, а кулаком

— Ваша міласць, хачу ў суд падаць на суседа Шадака. Гэты гіцаль без дай прычыны два зубы мне выбіў,— звяртаецца селянін да адваката.

— Каким же это образом он выбил вам?

— Ды не абразом, а кулаком, гад, саўгануў. Я ўжо шукаў-шукаў іх, каб паказаць суду, але дзе ж ты іх знойдзеш на тым цёмным Бэркавым панадворку.

### У судзе

Злодзей украў у селяніна кажух. Злавілі яго і разам з кажухом прывялі ў суд. Прыйшоў сюды і селянін.

— Чы то ваш кожух? — пытаецца суддзя.

— А ўжо ж не чый, а мой.

— Злужце доводы.

— Да вады? Дык жа кажух зусім новы, што з яго будзе, калі пакладу ў ваду!

### Жонка-паліглот

Паўлюк Кілбаска паехаў да цёткі ў Беласток і адтуль прывёз сабе жонку. Тыдзень ходзіць па вёсцы задуменны, другі, трэці... Нейк Пятро Цыбуля ў яго пытаецца:

— Пра што ты, суседку, думаеш усей час?

— Ды думаю, чаму за мяне, дурня, гэткая разумная дзяўчына пайшла.

— Няўжо?

— Дый сам мяркуй: Стэфка гэтак польскай мове навучылася, што ў хаце са мною адно на ёй размаўляе.

### Няўмелае выхаванне

За чаркаю Базыль Карась скардзіцца суседу:

— Жонка мяне замарыла. Як пачне лаяць, каб ёй заняло, дык чыста той Ваўчок брэша: вушы ажно закладае.

— А за што яна цябе лае?

— Ды скуль мне ведаць. Кажу ж табе: вушы закладае.

### Хітрун-інтэрнацыяналіст

Рыгора Андрэевіча Крывульку абралі дэпутатам у Вярхоўны Савет БССР. Увечары, пасля першага паседжання на сесіі жонка яму кажа:

— Не туды цябя панясло, Грыгоры Андрэевіч. Таго і глядзі па-беларуску гаварыць заставяць.

— Не заставяць. Я хітры. Буду как наш прадсядацель Піліп Піліпавіч Канапель: слова — па-беларуску, слова — па-руску, слова — па-нічыйнаму. Інтарынацыяналізацыя, панямаеце лі!

## ДАРАГІЯ СЯБРЫ!

Паведамляем, што Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны дзеля ажыццяўлення мэт, вызначаных Статутам ТБМ па адраджэнні беларускага слова, прымае ахвяраванні ад прадпрыемстваў, установ, арганізацый і прыватных асобаў як на Беларусі, так і ў СССР і за мяжой.

Наш цэнтральны рахунак 700510 у Белжылсацбанку.

Валютны рахунак 000700704 у Знешгандальбанку СССР.

## АХВЯРАВАННІ НА СПРАВЫ ТАВАРЫСТВА

Студэнты філфака з БДУ — 45 рублёў.
Селяшчанская сярэдняя школка — 52 рублі.
С. А. Міхальчук — 100 рублёў.
Сярэдняя школка № 7 горада Слуцка — 56 рублёў.
АПК, г. Слуцк — 22 рублі.
Любоў Тарасюк — 100 рублёў.
Кафедра беларускай мовы філфака БДУ — 100 рублёў.
Міхась Жэбрак, народны дэпутат БССР — 100 рублёў.
Лявон Вашко — 100 рублёў.
Згуртаванне беларусаў з Вялікабрытаніі — 200 рублёў.
Раіса Жук з Канады — 200 рублёў.
Айцец Аляксандр Надсан з Лондану — 200 рублёў.

Рэспубліканская Рада ТБМ імя Ф. Скарыны шчыра дзякуе ахвяравальнікам.

## Паважаныя чытачы «Наша слова»!

Паведамляем вам, што з 1991 г. бюлетэнь Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны ўключаны ў Каталог перыядычных выданняў СССР, індэкс 74975. Выпісаць «Наша слова» можна ў арганізацыях «Саюздруку» або ў любым аддзяленні сувязі СССР. Выходзіць штомесяц, падпісная цана на год — 2 руб. 40 кап.

Выпісвайце і чытайце «Наша слова»! Дасылайце на адрас рэдкалегіі допісы, артыкулы і іншыя матэрыялы, звязаныя з адраджэннем беларускай мовы, нацыянальнай культуры і гістарычнай спадчыны.

У ліпеньскім нумары «Нашага слова» па віне супрацоўніка рэдакцыі не ўказана, што выступленне народнага дэпутата Н. С. Гілевіча на першай сесіі Вярхоўнага Савета друкуецца ў скарочаным выглядзе.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

Рэдактар Ніл Гілевіч
Сябры калегіі: Янка Брыль, Уладзімір Дамашэвіч, Алесь Камароўскі, Анатоль Клышка, Ігар Лапцёнак, Генадзь Мацур, Зміцер Санько, Мікола Супрановіч, Алесь Траяноўскі, Генадзь Тумаш (нам. рэдактара), Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун.
Адказны сакратар Лявон Вашко



Наш адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон рэдакцыі 33-25-11

Бюлетэнь выходзіць раз на месяц. Выданне безганарарнае.

МВПА імя Якуба Коласа. Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка». Наклад 10 000. Заказ 2178. Індэкс 74975.